# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1275) ГОД XXV БЕЛАСТОК, 3 ЖНІЎНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# ВЕРАБ'І

Калі нехта захоча прыслухацца водгуллю чатырохсотгадовай баярскай традыцыі, тады няхай падаецца якраз у гэтую мясцовасць. Яе трэба шукаць у Гарадоцкай гміне, у якіх 50 кіламетрах па шашы з Беластока ў Баброўнікі. Той, хто першы аблюбаваў гэтае месца на сваю сялібу, вызначаўся асаблівай уражлівасцю на прыгажосць. Каля агародаў тут сочыцца ручай Вярбел, што крыху далей на ўсход упадае ў рэчку Каладзежную — левы прыток ракі Свіслачы, а на пагорках кучаравяцца сасновыя пералескі...

Шляхецкая ваколіца Вераб'і — толькі так заве сваю родную мясцовасць 65-гадовая прыветная і размоўная захавальніца тутэйшай традыцыі Казімера Шыдлоўская і так яна значыцца ў шматлікіх дакументах — бярэ свой пачатак ад беларускіх баяраў Вераб'ёў. У дакументах ужо пад 1567 годам яны выступаюць як баяры воўпенскія Вераб'і. Значыць, здаўна, магчыма нават з часоў вялікага князя Вітаўта, „сядзелі“ яны пры Вялікай Дарозе з Гродна праз Крынкі, Нарву на Падляссе і далей на Валынь і ў Польшчу. Пра гэты калісьці надта ж рухлівы шлях захаваўся пераказ, што да яго даходзіў вераб'ёўскі палетак Засценак і некалі стаяла там карчма. З дакументаў вядома, што непадалёк Вераб'ёў, на поўнач за рэчкай Каладзежнай, яшчэ ў XVI стагоддзі пачыналася сцяна колішняй Гродзенскай пушчы, яе рэшткі захоўваліся тут нават у другой палавіне мінулага стагоддзя. Таму ёсць падставы меркаваць, што баяры Вераб'і на вялікакняскай службе выконвалі адказныя абавязкі: ахоўвалі багатую зверам, борцямі і драўнінай пушчу, сцераглі спакою на шляху, удзельнічалі ў вялікакняскіх паляваннях, ездзілі з рознымі даручэннямі, хадзілі ў ваенныя паходы. І на лясным пагорку могілі, што высіцца над ваколіцай, спачываюць, пэўна, не толькі косці памершых ад чумы і іншых пошасцей, але і тых Вераб'ёў, што шчасліва вярталіся з бітваў з туркамі, шведамі, рускімі. Так, служылі, ваявалі і з любасцю „тупалі“ каля сваіх „загонаў“, параскіданых у шматлікіх палетках. Сённяшнія іх назвы знаходзім і ў дакументах з 1838 і 1854 гадоў: Аколы, Гатка, Глліннікі, Горы, Камянец, Капліца, Лес, Ліпнікі, Мілашоўка, Прагаліна, Пярэдні Лясок, Равы, Сядзібы, а 73-гадовы Францішак Шыдлоўскі дадае да іх яшчэ: Вярбелы, Дубовік, Падбалота, Пузонь, Саўлясок, Студзянец, Цілева. Хоць і скупая на ўраджаі гэтая зямля, бо на ёй толькі „брат брата зародзіць“, гэта значыць збор усяго ўдвая большы ад высеянага насення, але людзі трымаліся яе, сядзелі на ёй трывала, непарушна. За чатырыста год тут перамянілася ўсяго тое, што колішнія баяры Вераб'і недзе ў XVII стагоддзі сталі шляхтай Врублеўскімі і гэтае прозвішча складае аснову цяперашніх насельнікаў гэтай мясцовасці. У розныя часы далучыліся да яго: Агільба, Апуневіч, Бляўскі, Вільчынскі, Галашэўскі, Глябовіч, Гутоўскі, Дрангоўскі, Залеўскі, Зарэцкі, Ігнатовіч, Карвель, Купрыяновіч, Макар, Нятупскі, Шышка, Шыдлоўскі, Шчасновіч, Эйсмант і некалькі іншых. Не заўсёды гэта былі радавітыя баяры як Шыдлоўскі, які выводзіўся з баярскай ваколіцы Анцуты, што каля Нарвы. Знаходзіліся сярод іх звычайныя „мужыкі“, напрыклад, Апуневіч — ткач з мануфактуры ў Красным і інш.

Ці жылося ім сапраўды па-баярску, па-шляхецку? Намагаліся яны так жыць, трымаць „фасон“, але пераважна з квасу на кулеш перабіваліся і нямногім розніліся ад сваіх суседзяў-сялян. Таксама шукалі граша пры касавіцы, жніве ды капанні па суседніх маёнтках і фальварках, падаваліся ў лес да вырубкі і вывозкі. Як ездзілі з коньмі „ў начное“, то на бродзе коні ўваходзілі вольнай нагой, а выходзілі з вады, спутаныя такімі моцнымі путамі з дзеразы, што разарваць іх нават конскай сілы не ставала, трэба было таемныя замовы на нячыстую сілу ведаць, каб жывёлу вызваліць. Па начах на дарогах ім чэрці явіліся чорнымі баранчыкамі, а ў карчме „на Вярбелах“ аднаго шляхту сябры па кварце шалікам насмерць задушылі, бо, відаць, на пачастунак паскупіўся...

Аднак у гістарычна важныя моманты Вераб'і не казалі: „Мая хата скраю“. Напрыклад, у паўстанні 1863 года прынялі ўдзел адзін з Бляўскіх і яшчэ некалькі вераб'ёўцаў. Паўстанцкі атрад стаяў на гары Камянец у лесе Ліпнікі. Вераб'ёўцы тайкам насілі туды харчы, ваду, корм коням. Тыя падзеі жывуць і па сённяшні дзень у таямнічым агні, што па начах, быццам бы, явіцца людзям на ляснов дарозе якраз у тым месцы, дзе паўстанцы, адступаючы пад націскам казакаў, закапалі скрыню ахвяраваных ім людзьмі залатых чырвонцаў. Грошы прызначаліся на народную справу і след па іх не можа загінуць. Жывуць яны таксама ў розных згадках пра тое, што род славутага паўстанца і рэвалюцыянера Валерыя Врублеўскага выводзіцца з гэтых жа Вераб'ёў...

Сёння ў Вераб'ях каля 40 гаспадарак, але як кажа солтыс С. Врублеўскі, палова іх — гэта пенсіянеры, што здалі зямлю дзяржаве. І гэты працэс, на жаль, будзе павялічвацца, бо толькі некалькі маладых пераняла гаспадаркі бацькоў ці дзядоў. Іншыя ж рассыпаліся па ўсёй краіне. Шэраг з іх — як двох Тарымоў, чатырох Бляўскіх і іншыя — закончылі вышэйшыя школы, многія здабылі сярэднюю прафесіянальную адукацыю. І людна ды шумна тут бывае толькі ў час вакацый і на вялікія святы. Потым у старых ліпах каля колішняга Вадапою, у буйнай гушчавіне бэзу на месцы былых агародчыкаў, дзе некалі баяркі-шляхцянкі гадавалі дзявочую руту, гуляе пустальга-вецер. У абшырных хатах-дварах нехта выме са спарахнелай камоды скрутак пажаўцелых ад даўнасці дакументаў на гербавай паперы, дыхне тым адыйшоўшым назаўсёды часам. Сумна...



*Каля доміка-дварка з пачатку нашага стагоддзя — роднага і любага куточка Казімеры і Францішка Шыдлоўскіх — шуміць густалістая ліпа.*

**М. Гайдук**
Фота аўтара

IX З'ЕЗД БГКТ

# ВІДАЦЬ, МЫ, БЕЛАРУСЫ, ЧАГОСЬЦІ ВАРТЫЯ!.

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ АЛЯКСЕЯ КАРПЮКА — ДЭЛЕГАТА З БЕЛЬСКА)**

— Дэлегатам на сённяшні з'езд выбралі мяне самыя маладыя члены нашай арганізацыі — вучні трэціх і чацвертых класаў Бельскага беларускага ліцэя. Як свайму дырэктару даручылі мне расказаць пра свой ліцэй. Ім яны заўсёды ганарацца, і, думаю, што маюць на гэта ўсе падставы. Будынак на вуліцы Каперніка ў Бельску можна смела назваць цэнтрам беларускага школьніцтва ў Народнай Польшчы. Тут, у пачатковай школе № 3 і ў нашым ліцэі займаецца каля 1000 вучняў. Калі ў іншых мясцовасцях то дэмаграфічныя, то арганізацыйныя, то яшчэ хто ведае якія прычыны выклікаюць змяншэнне колькасці дзяцей, што вывучаюць родную мову, то ў нас такой праблемы няма. У нашым ліцэі ёсць праблема, як прыняць усіх тых, хто хоча ў нас вучыцца.

Затым А. Карпюк выказаў удзячнасць ВК ПАРП і ГП БГКТ, што заўсёды з увагай і прыхільнасцю адносяцца да патрэб ліцэя. Бельскі беларускі ліцэй славіцца высокім узроўнем навучання і дасканалымі выхаваўчымі вынікамі. І так, за гады 1978 і 1979 у вышэйшыя школы паступіла 117 абсальвентаў ліцэя, гэта больш чым у 1971 і 1972 гадах закончыла яго, бо было тады 103 абсальвенты. У 1974 г. на 30-годдзе ліцэя быў уручаны 1000-ы матуральны дыплом, а ў бягучым годзе ліцэй выдаў 1700-ы дыплом. Па спраўнасці навучання ліцэй на працягу апошніх 5—6 год займае адно з вядучых месц у ваяводстве.

Паказальным з'яўляюцца таксама вынікі, якіх дабіваюцца вучні ліцэя ў розных прадметных алімпіядах. За апошнія чатыры гады ў адзінаццаці прадметах на ваяводскія, міжваяводскія і цэнтральныя алімпіяды прайшло аж 154 вучні, з іх на цэнтральныя — 17 чалавек. Гэтыя лікі ставяць ліцэй у шэрагу найлепшых школ Беласточчыны. Самым вялікім дасягненнем было першае месца ў краіне на Алімпіядзе ведаў пра Польшчу і сучасны свет у бягучым годзе: на ёй першае месца заняў вучань Андрэй Рубашэўскі індывідуальна, а калектыўнае першае месца — каманда Бельскага беларускага ліцэя. Перамога асабліва вялікай вартасці, бо гэтая алімпіяда вылучаецца глыбокай ідэйнасцю.

— Вестка пра гэтую перамогу выклікала вялікую радасць не толькі ў нашым ліцэі, — заўважыў А. Карпюк. — Цешыўся ёю ўвесь Бельск. Гэта было вялікае свята ў сем'ях нашых вучняў і абсальвентаў. Віншавалі нас па тэ-



лефону, тэлеграмамі, лістамі, спецыяльна прыходзілі ў школу выказаць сваё прызнанне нашым дасягненням. Але самую глыбокую ўдзячнасць мы пачулі ў словах аднаго з бацькоў нашага вучня, простага селяніна. Ён усклікнуў: „Відаць, мы, беларусы, чагосьці вартыя людзі!“ Думаю, што толькі для такога прызнання простага чалавека ліцэю варта было працаваць увесь год на перамогу.

У заканчэнні свайго выступлення А. Карпюк звярнуўся да новага Галоўнага праўлення БГКТ, каб яно, як дагэтуль, заўсёды бачыла ў Бельскім беларускім ліцэі таго, на каго можа разлічваць наша таварыства цяпер і ў будучыні.

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ДЗЕ „НІВЫ“ НАЙБОЛЬШ?

Пошта ў Нараўцы ахоплівае сваёй дзейнасцю 14 вёсак і мае 1535 падпісчыкаў на розныя газеты і часопісы. Найбольш аднак падпісчыкаў на „Ніву“ — 258. Затым 197 падпісчыкаў на „Газету Вспулчэсную“ і 89 — на „Грамаду — Рольнік Польскі“. Працуюць тут тры пісьманосцы з 19—21-гадовым стажам: Мікалай Лясота, Міхась Панфілюк і Уладзімір Васільчык. Усе яны лепшыя работнікі сувязі. Напрыклад, Уладзімір Васільчык заваяваў першае месца ў спаборніцтве на найлепшага лістаноша ў ваяводстве (у раёне яго абслугоўвання многа падпісчыкаў на прэсу, у тым ліку на „Ніву“). Сярод часопісаў, якія даручае, наша „Ніва“ карыстаецца найбольшай папулярнасцю, і гэтая папулярнасць расце з кожным годам.

### НА ПУШЧАНСКІМ ШЛЯХУ

Як толькі скончыліся заняткі ў школе і насталі летнія канікулы, у Гайнаўцы, Белавежы, Тэрамісках, Нараўцы, Старым Ляўкове і ў Нарве ў школы ўнеслі ложкі і пасцель, каб у летнія месяцы вандроўныя лагеры і экскурсанты, вандруючыя па роднай краіне, маглі тут адпачыць і пераначаваць. Як штогод, у школьных залах ляўкоўскай школы адпачывалі гарцэры і экскурсанты з розных школ. Ляўкова знаходзіцца на так званым пушчанскім шляху (маецца на ўвазе Белавежская і Лядская пушчы). Ад 16 чэрвеня да 16 ліпеня гэты шлях наведала 18 вандроўных лагераў (у кожным з іх па 20—22 чалавекі) з Беластоцкага (адгэтуль было іх найбольш), Катавіцкага, Уроцлаўскага, Пазнанскага, Торуньскага і іншых ваяводстваў. Удзельнікі гэтых турпаходаў вельмі хваляць адпачынак у спамянутым ціхім і прыгожым кутку Беласточчыны. Некаторыя наведваюцца сюды праз год-два. Да 14 жніўня на пушчанскім шляху можна будзе яшчэ сустрэць вандруючых экскурсантаў з 32 розных мясцін нашай краіны.

### ЗАСТАЛАСЯ ТОЛЬКІ ШЫЛЬДА

У Нараўкаўскай гміне існуе даволі многа гурткоў вясковых гаспадынь (КГВ). Сярод іх актыўнасцю вылучаюцца КГВ у Міклашэве, Скупаве, Ляшуках, Семяноўцы, Нараўцы і іншых мясцовасцях. Шмат дапамагае ім спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў. Вось хаця б у такіх справах, як арганізацыя вясковых дзяцінцаў, курсаў рацыянальнага харчавання сям'і, забеспячэнне ўсіх ахвотных гаспадынь куранятамі, гусянятамі ці качанятамі. З дапамогай уключылася таксама гмінная спулдзельня. У Нараўцы арганізавала яна асяродак „Сучасная гаспадыня“ (у такіх асяродках выконваюць усялякія паслугі, неабходныя для вясковых жанчын у штодзённым жыцці: робяць модныя прычоскі, пазычаюць настольныя сервізы і рознае кухоннае механізаванае абсталяванне, прымаюць вопратку ў хімчыстку, арганізуюць кулінарныя курсы, паказы, дэгустацыі, кравецкія курсы і іншыя. Словам, ён дапамагаў жанчынам у іх штодзённых клопатах і вучыў культурней жыць.

Мінула ўжо пару гадоў, як асяродак „Сучасная гаспадыня“ ў Нараўцы спыніў сваю дзейнасць. І ўсё навокал заглохла. З усяго гэтага асталася толькі шыльда. І яна толькі дарма маніць жанчын. Калі ўжо так далей мае быць, дык ГС у Нараўцы павінен зняць шыльду. Навошта яна! Каму яна патрэбна. (І.Н.)

### ЮХНАВЕЦКАЯ ДЭМАГРАФІЯ

У Юхнавецкай гміне цяпер пражывае 10130 асоб, у тым ліку 5090 мужчын і 5040 жанчын. Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца Клеосін — 1395 асоб, Ксенжына — 547, Альмонты — 441, Войшкі — 428 і Клевінова — 388 асоб. Лік жыхароў гміны змяншаецца.

Стогадовай жыхаркай гміны з'яўляецца Юлья Азямковіч, дачка Яна, якая пражывае ў Клевінове. Да шматгадовых жыхараў належаць Юзэф Сідарук (нар. 1884) з Кажанаў, Салёмэ Матвейчук (нар. 1884) з Чараўкоў і Міхаліна Міхальчук (нар. 1883) з Вулькі.

У мінулым годзе пажанілася 112 пар і ў бягучым 54 пары. Нарадзілася 140 дзяцей. Бацькі надаюць дзецям найчасцей такія імёны: Анна, Кацярына, Агнешка, Міхал, Караль, Марцін. **(яц)**





## СПАРТЫЎНЫЯ ГУЛЬНІ

Ужо чацверты год падрад адбываюцца ў Нараўцы спартыўныя гульні працуючай моладзі на кубак І сакратара гміннага камітэта партыі і начальніка гміны. Гульні праходзяць надта цікава. Моладзь бегае, скача, ездзіць веласіпедам, перацягвае ліну, кідае палянтавы мяч, іграе ў валейбол.

На мясцовым стадыёне сабралася шмат моладзі і старэйшых. Усе спартсмены і балельшчыкі правялі добра свой дзень адпачынку. Як штогод, рапарт прыняў Юрка Бароўскі — І сакратар гміннага камітэта партыі ад галоўнага суддзі Я. Валкавыцкага. На футбольнай пляцоўцы стаяла моладзь. Працаўнікі гміннай адміністрацыі прыйшлі з транспарантам, на якім быў малюнак мішкі — сімвала маскоўскай алімпіяды. Традыцыйны агонь запаліў Мікалай Павільч — выдатны спартсмен нашай гміны.

Потым распачаліся гульні. Найдалей скочылі з месца Марыся Краснапольская і Мікалай Павільч. На веласіпедзе першымі былі Аўгіня Каліноўская і Рышард Кісялеўскі. Бег на 100 метраў сярод мужчын выйграў Барыс Кабаць, на 60 метраў сярод жанчын — Марыся Каролька. Найдалей кінула палянтавым мячом Галіна Карпюк, а куляю — Мікалай Грэсюк. У агульнай пунктацыі сярод жанчын першае месца займае праўленне гміны, а сярод мужчын — чыгуначнікі.

Каманды па футболу сыгралі матч паміж Нараўкай і Ляшукамі, выйграла Нараўка 15:1. Дзень, праведзены на стадыёне, быў, як вялікі фэст, і вельмі спадабаўся ўсім прысутным.

**Аляксандр Закройшчык**
Фота Я. Целушэцкага







**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ВЕРАВАННЕ.**

## Неба

Неба, Зямля, Вада і Агонь — чатыры галоўныя элементы, свайго роду цэнтры, у народным вераванні. Розныя з'явы, не знаходзячыя разумнага паяснення, чалавек заўсёды прыпісваў усемагучым звышнатуральным сілам. І нават само паяўленне Неба, Зямлі, Вады ды Агню было нічым іншым толькі творам Бога, за прычынай якога далі яны потым пачатак буйнаму жыццю.

Неба... Ад найдаўнейшых вякоў было яно вялікай тайнаю, якая прыцягвала ўвагу людзей і радзіла шматлікія пытанні. Калі магла прыбыць нейкая сіла, ці нейкая ўсеагульная змена ў жыцці дык толькі з Неба. У чалавеку выпрацаваўся свайго роду некантраляваны рух. Хопіць пачуць нейкі неспатыканы гул, дык перш за ўсё гляне ён у неба. Адтуль прыйшоў агонь, адтуль падае дождж, там свеціць сонца, там месяц і зоры. Некаторыя слепа, не толькі без спробы нейкага тлумачэння паасобных з'яў, але нават дапушчэння гэтакай думкі, прызнавалі і верылі рэлігійным паясненням, іншыя спрабавалі стварыць гіпотэзы і даказваць праўду людскім розумам. І апошніх, свайго часу, лёс быў трагічным.

Вяртаючыся да народнага веравання спрабуйма нарысаваць выгляд Неба. Зразумела, усё гэта на аснове гутарак з людзьмі старэйшага пакалення. Як выглядае Неба? І на гэтае пытанне яшчэ часта, прыкладна ў Тымянцы, можна было пачуць, што яно ў форме высокага купала з паразвешванымі свяцiламі, над якімі пастаўлена Сонца. Іншыя зноў, напрыклад у Сухавольцах, дзялілі Неба на ноч і дзень. Дзень — гэта Сонца, ноч — Месяц і Зоры. Рэдкасцю было, калі нехта сказаў, што на Неба можна заляцець. Наогул адказы былі згодныя з пачутым у Сасінах: „Небо высоко, вонэ небеске, небо далеко, далеко од Землі. До місэця літят хіба дванадцэть тысяч кілёметров, але до Нэба нэ долетілі і нікогда нэ долетят“.

Прыведзенае сведчыць, што народ не меў свайго поўнага ўяўлення адносна Неба. Усе згодна гаварылі, што зоры, месяц, сонца знаходзяцца на небе, Да месяца даляцець можна, але да Неба не. Паяўляецца такое самапярэчанне.

Неба — паселішча багоў і святых, якія адтуль кіруюць лёсам людзей, было адначасова месцам розных таямнічых з'яў. І вось з гэтымі з'явамі якраз і звязаны шматлікія вераванні, якія на працягу часу зрадзілі шматлікія своеасаблівыя легенды-расказы. Уся хрысціянскасць, якая будзе выразна паяўляцца пры кожным апісанні, у большасці — гэта пазнейшая напластоўка. Пры апісванні Неба ў народным вераванні неабходна раздзяліць на ноч і дзень, так, як, у залежнасці ад іх, змяняла яно свой выгляд. Ноч надавала больш таямнічасці і таму больш будзе магічнай абалонкі, прадказвання.

**М. Шаховіч**

### БУГ У АГНІ

## Слядамі смерці

Гэтая хвіліна, якую ён прастаяў моўчкі над катлаванам ля развалін дота „Быстрый“, расцягнулася да 39 гадоў. Гэтае месца над Бугам за вёскамі Слохі Аннапольскія ў Сямяціцкай гміне Пётр Пятровіч Плаксей пакінуў 25 чэрвеня 1941 года. Тады адыходзіў з асколкамі ў патыліцы, з закрываўленым тварам, адурманены газамі. А ўсё ж на сваіх плячах змог яшчэ выцягнуць з разбітага дота цяжка параненага камандзіра, малодшага лейтэнанта Івана Мікалаевіча Шыбакова...

Гляджу на яго і толькі здагадваюся, якая бура пачуццяў і няпрошаных успамінаў трывожыць Пятра Пятровіча. Ён дрыжачымі рукамі сягае за папяросай і гэта, здаецца, на хвіліну супакойвае яго, дае крыху часу на перапынак вяртання ў балючае мінулае.

Побач Міхаіл Млынарчук, гаспадар з вёскі Турна Малая, які запрасіў яго ў госці, і я — журналіст „Нівы“, якому пашчаслівілася адшукаць аднаго з тых савецкіх салдат, якіх кроў увабрала наша шматпакутная зямля.

Плаксей, здаецца, нас не заўважае. Перад яго вачыма зноў імчацца шашой ад вёскі Слохі варожыя самаходныя гарматы, якія вось... вось... пачнуць прабіваць сцены доўгатэрміновай абароннай точкі. Трэба гэтыя самаходкі спыніць, абавязкова спыніць! І Пятро Плаксей зноў і зноў прыціскае да пляча свой кулямёт... Толькі што кулямётам, гэтым „Дзегцяровым“, можна зрабіць гармаце на гусенічным хаду, схаванай за стальным панцырам? На шчасце, з дота адзываецца свая гармата. Ды і яна больш зможа напалохаць, чымсьці пашкодзіць, бо ў доце няма супрацьтанкавых снарадаў. Гармата б'е асколачнай шрапнеллю...

Ці пра тое зараз думае даўнейшы старшына фуражнага абеспячэння — Пятро Пятровіч Плаксей? А хто яго ведае! Я толькі бачу, як ён неспакойна пыхкае дымам і ўсё яшчэ маўчыць.

— Так... — уздыхнуў ён урэшце неяк цяжкавата. — Тады тут усё крыху інакш выглядзела. Ад дарогі і ад вёскі, вунь там, дзе зараз расце бульба, і дзе гэтыя прыдарожныя чарэшні, стаяла тады высокая маскіровачная загарадзь, якую нашы салдаты павалілі, калі началася вайна, каб мець выгаднейшы сектар абстрэлу. Вось за гэтай жа загараддзю, вунь там, дзе гэты бугарок, знаходзіўся мой акоп...

Ён павярнуў галаву ў бок станцыі Сямяцічы, дзе зараз красуецца сцяна сасновага лесу, які тады толькі што пачынаў быць лесам.

— Нямецкі матацыкліст імчаўся вунь адгэтуль, — расказвае Пятро Плаксей. — Дык я яму насустрач — гранату! На ваенных вучэннях швыраў я гранатамі на адлегласць да 70 метраў. Тут я цэліў, каб нейкіх дзесяць метраў перад ворагам. Ён аднак імчаўся так хутка, што граната разарвалася ўжо ззаду, метраў 5—7. Матацыкліст павярнуў у роў, пераляцеў цераз яго, упаў, сарваўся з зямлі і пабег у жыта, бо тады, — паказвае ён поле за шашой, — расло тут жыта, высокае, густое, яшчэ зялёнае... Я ўхапіў свой кулямёт і паслаў гэтаму „фрыцу“ ўдагонку доўгую чаргу. Аж каласы пасыпа-




*Ніна Такаюк і Яўгенія Вішанка з Мікуліч. III месца.*

*Фота М. Шаховіча.*

**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80**

**З маёй званіцы**

## ЦІ „НІЗКА“ — УСЮДЫ НІЗКА?

Да сённяшняга фельетона загналі мяне цырульнікі. Вы, паважаныя чытачы, пэўна, думаеце, што я хлушу. Маўляў, цырульнікі не прымушаюць нікога сілай. О, тады яны вас яшчэ не давялі да шаленства. І спосаб у іх на пераўтварэнне вас у шалёнага вельмі просты. Не мандатам узбудзяць яны вашы нервы, не судовай валакітай. Прыдушаць яны вас звычайнай электрычнай машынкай.

Заўсёды хадзіў я падстрыгацца да адной пані. Хоць яе майстэрня IV катэгорыі і далёка ад майго дома, але ў яе ёсць добры густ: ведае, што каму пасуе.

На гэты раз я вельмі спяшаўся і забег у цырульню I катэгорыі, што ля майго дома. Чаргі не было. Я прывітаўся з цырульнікам, з якім быў ужо знаёмы (аднойчы „падраўняў“ ён мне бакі, што левы быў вышэй вуха, а права пасярэдзіне і людзі думалі, што ў мяне вушы выраслі фальшыва) і выбраў іншага „фахмана“. Той пасадзіў мяне ў крэсла і спытаў: „Нізка, ці высока?“ Я сказаў: „Прашу нізенька“.

Цырульнік расчасаў мае валасы на дзве роўненькія часткі з белай баразной пасярэдзіне галавы ды, узяўшы машынку, запусціў яе ў маю чупрыну. Пакуль я агледзеўся, машынка ўжо арудавала на сярэдзіне галавы.

— Пане майстар, — застагнаў я, — я ж прасіў нізка!

— Стрыгу так, як кліент жадаў, — адказаў стрыгун.

Я спыніў дыскусію, спужаўся, што майстар выпусціць мяне з грыўкай над ілбом. Вядома, можа знервавацца і дасць машынцы волю. Што будзе, то будзе — дасядзеў да канца.

Урэшце цырульнік зняў з мяне прасцінку, шчоткай заглянуў за каўнерык ды сказаў:

— Гатова, дваццаць злотых!

Заплаціў я, падзякаваў, развітаўся і пайшоў дамоў. Прыходжу, а жонка гаворыць:

— Ого, вясна будзе!

— Якая вясна! — не скеміў я. — Цяпер жа люты.

— Люты? — іранізуе жонка. — А ты ж падстрыгся як на лета.

— Чорт іх ведае, гэтых цырульнікаў, — спавядаюся жонцы. — Хадзіў да майстра IV катэгорыі, усё было ў парадку. Думаў, што ўсюды „нізка“ абазначае нізка. Аказваецца, у вышэйшых салонах усё наадварот.

— Ты прасіў „нізка“? — смяецца жонка.

— Ну.

— Не нукай, а прыпомні, як косяць траву на лонцы. „Нізка“ — значыць, пад корань.

Прызнаў я жонцы рацыю і цяпер, калі ўсаджваюся ў цырульніцкае крэсла, дрыжу, каб майстар не памыліў маёй галавы з лонкай.

**Васіль Петручук**

ліся, як ад касы. Што аднак сталася з гэтым фашысцкім матацыклістам, я не ведаю, бо не цікавіўся...

Калі Пятро Плаксей ужо разгаварыўся, ён прыгадаў яшчэ і эпізод, калі ён сваім кулямётам спыніў калону варожых аўтамабіляў. Пра ўсё гэта я ўжо расказваў, дык прапаную Пятру Пятровічу, каб мы апусціліся ў развaліны дота. Ён глядзіць у катлаван, запоўнены вадой і кажа, што тады, у чэрвені 1941, таксама ніжні паверх гэтага доту стаяў у вадзе.

— Яна мне сягала вышэй каленяў, — кажа Плаксей. — А пазней, калі ўжо нас гітлераўцы акружылі і выбілі нашу гармату з амбразуры, то ад выбухаў і ад нагрэву вада ў доце аж бульгацела, так кіпела яна...

Стаім мы ў прабітай сцяне. І верыць не хочацца, што хто-колеч змог выйсці адгэтуль жывым. Жалезныя пруты таўшчынёю ў палец дарослага чалавека, разарваныя і паскручваныя, як папяровыя стужкі.

— Ці аж так разбіты быў гэты дот, калі вы яго пакідалі? — пытаю Пятра Плаксея.

— Не, то ўжо крыху пазней немцы падрывалі гэтыя точкі, — выручае яго

(Працяг на стар. 6)



*З нашага дота разам з амбразурай вылецела гармата, — расказвае П. П. Плаксей.*

**Гародчык цёткі Мальвіны**

## ШУКАЮ РАДЗІМУ

Цябе знайду, Цудоўная Краіна,
Радзіма ўсіх няўдачлівых людзей,
І прыпаду адчайна, неадрыўна
Паблеклым тварам да тваіх грудзей,
Губамі ссохшымі пясок твой пацалую
І, зарыдаўшы цяжка і без слёз,
Аб тых сваіх няўдачах раскажу я,
Якія даў мне недарэчны лёс.
Я не баніт, цвіце мая Радзіма,
Гаворыць, што будуе Сацыялізм,
Ды у Радзіме гэтай я жанчына,
А мне свабоды штосьці не далі.
Традыцыя не мае пятай клепкі,
Кукіш паказвае на мой дыплом,
Пасля работы кажа быць, дзе плачуць дзеткі,
Латаюць порткі, вараць боршч.
А мужу з сябрамі сустрэцца кажа,
Кілішак лішні хлопнуць там яны
І нагаварацца аб розных справах,
Спяшацца ж ім няма куды.
На другі дзень ім доўга лячыць „каца“,
Ляжаць, як здохлым, тэлебачанне глядзець,
Спортам, палітыкай займацца,
Вычытваючы ўсё з газет.
А людзі кажуць: жонка я благая,
Гадзін па восем штодзень сабе сплю,
Гузікаў мужу я не прышываю,
Канапак на работу не даю.
А я традыцыю ўзяла б за горла,
Па рыле нахвастала б сотню раз,
І сілаю сваёй агоранай
Сказала б, хто тут праў, а хто тут вінават.
Цябе знайду, Радзіма, не на Марсе,
Пайду туды, дзе дружна грамада,
Дзе за прагрэс змагаюцца упарта,
Хачу салдатам быць ў такіх радах.
Толькі на тыдзень дай заснуць на лузе,
Каб сонца лашчыла і вецер цалаваў
І каб не бачылі ліхія людзі
Маіх заблытаных і кепскіх спраў.
Вярні завяўшы чар красы дзявочай
І маладосць прапаўшую дармо,
Дай чорны бровы, стройны стан і ясны вочы,
Дай такт нагам у танцы пад гармонь.
Дай букет кветак ясных і вільготных,
Я прыкладу да стомленых павек,
І засмяяцца дай, як бесклапотна
Смяецца толькі вольны чалавек.
Як Мурамец Ілья, адчайна веру,
Што сілу так патрэбну ў барацьбе,
Мне, кінутай аб зямлю, хутка вернеш,
Ды адгукнісь, шукаю я Цябе!

**Цётка Мальвіна**

**Якія мы людзі**

## ЦАЛАВАЦЬ ЦІ НЕ ЦАЛАВАЦЬ

Хоць „Пастаянны чытач“ не заклікаў шырокія масы чытачоў да дыскусіі, а звяртаўся толькі да жанчын і Дзядзькі Кваса, разгарнулася сур'ёзная дыскусія (хоць яна нічога не зменіць у дагэтуляшніх міжлюдскіх адносінах).

На заклік „ПЧ“ адгукнулася не толькі „Агата“, але такі аўтарытэт, як В. Петручук. Апошні не вырашыў пытання, толькі абмежаваўся парадай: „Хочаш цалуй, хочаш не цалуй“. Але прыклады, якія ён прывёў, прымушаюць мяне ўзяцца за пяро і напісаць на гэту тэму што-кольвек.

Усе прыклады В.П. (а прывёў іх аж пяць) цікавыя. Усюды націск на сваё „я“. Я — ідэал, рэшта — неахайныя і калтыгі. На сходзе рэнтыстаў (прыклад другі) нейкая пані С. прымусіла (?) яго пляснуць у насліненую папярэднікамі руку і пасля ён мусіў пляваць цэлы вечар. Як будзе адчуваць сябе пані С., прачытаўшы гэты прыклад?

Не ведаю, ці В.П. быў на тым фэсце (прыклад 4), але ў гасціне быў разам з удзельнікамі фэсту. А калі быў на фэсце, то бачыў, як веруючыя цалавалі (а мо і сам аўтар) абраз, у гонар якога адбываўся фэст. Гэта практыкуецца вякамі і не чуваць, каб людзі заражаліся ад гэтага практыкавання.

„Агату“ „П.Ч.“, відаць, сапраўды, вывеў з раўнавагі. Нібы іголкаю, кальнуў у мяккае месца. Перапалохаў яе, відаць, „вялікі чалавек паэт“, які, разявіўшы рот, сунуўся цалаваць яе руку. Што ж, усе паэты — людзі з гумарам і не лічацца надта з тым, што кагосьці зневажаюць. Вядома, вялікія! Да выпешчанай ручкі прыклеяць жабу, якую не сатрэ тоўсты ручнік і нават луг не адмые. Вось якія яны.

Мой погляд. Цалуем мы, мужчыны, жанчын у руку ў рамках добрага тону, які моцна закараніўся ў нашым краі і перайшоў пад сялянскія стрэхі з панскіх салонаў. Гэты акт так ужо ўвайшоў у звычай, стаў такі прывычны, такі машынальны, што яго ўжо ніхто не прыкмячае. Вер, „Агата“, што ніводнаму мужчыну пры думцы, што вось-вось пацалуе прыгожую (нават) ручку, не цячэ сліна, як у сабакі прафесара Паўлава.

Цалуючы руку жанчыне, мужчына датыкаецца да яе толькі кончыкамі губоў (ды да найчысцейшага месца на руцэ) і, дыхаючы носам, на слізістай абалонцы носа спыняе ўсе свае і яе мікробы. А што датычыць таго, ці гэта чыстая ручка, адчуе перш нос, ці смярдзіць, як у той Петручуковай „прыгожай“ крамаркі, то таксама нос не адпадзе.

Здзівіла мяне толькі „Агата“. „З рукамі, — піша яна, — як з усім іншым: цалуй, калі адчуваеш сябе на сілах, а калі не — дык не лезь!“ Вось гэта дык навіна. Памер бы, далібог, і не ведаў бы, што нават каб пацалаваць жанчыне руку, патрэбна сіла. Лічу, што нават пацалунак у губы не дае правоў мужчыне на што „іншае“. А тут пацалунак у руку? Выходзіць, што пацалунак у руку дужага мужчыны — добры і прыемны, а старога і слабога — нядобры і непрыемны.

Жывёліна, спатыкаючыся, мусіць адна другую панюхаць, а потым змагаецца або ліжацца. У людзей з давен-даўна ўведзены звычай вітацца. Уваходзіш у нейкую кампанію, вітаешся з мужчынамі. Ну, але калі між імі жанчыны, што рабіць? Калі падаем руку жанчыне — цалаваць? Ці не падаваць рукі зусім, што будзе раўназначна з асведчаннем, што жанчына нібы нераўнапраўны чалавек. Сёння даводзіцца назіраць: мужчына, падаючы руку мужчынам, жанчынам рукі не падае. Я падаю руку жанчыне (ці яна мне падае), і я не пацалую ў гэту руку, а наступны пацалуе. Як я тады буду выглядаць у вачах гэтай жанчыны? Такіх пытанняў многа.

Згодны з „Агатай“: „з цалаваннем будзь асцярожны“. Я не спяшаюся падаваць рукі старэйшым за сябе жанчынам і жанчынам на вышэйшым сацыяльным узроўні, хоць у гэтых выпадках бываюць цяжкія сітуацыі. Не цалаваць, як паступаюць многія культурныя народы, было б справядлівей, разумней, не гневала б цалуючага і цалуемай, калі ўжо, як паказала дыскусія, ёсць і такія індывідуальнасці.

**Дзед Кастусь**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я жыву на вёсцы і працую з бацькамі на гаспадарцы. Гаспадарка ў нас вялікая, работы шмат, але ў многім выручаюць машыны. Маем трактар і збіраемся купіць легкавую машыну. Усё, здавалася б, у парадку, але з адным клопат — я да гэтай пары не жанаты. А мне ўжо 29 гадоў. Мама спакою не дае. Ужо б хацела мець дапамогу. А я і сам ведаю, што пара мне жаніцца. Але і ажаніцца цяпер хлопцу на вёсцы нялёгка. Дзяўчаты ў горад уцякаюць, на гаспадарцы працаваць не хочуць. А я люблю вельмі гаспадарку, люблю гадаваць жывёлу. Да работы мяне наганяць не трэба. А да кампаніі і да гарэлкі мяне не цягне. Я і на забавах рэдка бываю, ды я нясмелы і цяжка мне навязаць размову з дзяўчынай. Але апошнім часам у гэтыя мае справы ўмяшаўся мой дзядзька, ужо нават і дзяўчыну мне намеціў. Яна з суседняй вёскі, таксама дзесьці ў маіх гадах. Яна не брыдкая, баявая, я ведаю яе, але ніколі не давялося мне з ёю гаварыць. Дзядзька ўжо з ёю гаварыў пра мяне. І кажа, што яна не супраць. Прапануе мне дзядзька, што завязе мяне да яе ў сваты. Але я саромеюся. Я ж ніколі з ёю не гаварыў. Як мне там паказацца? Парай, Сэрцайка!

**Мікола з Сакольшчыны**

**Мікола!** У мінулым такі спосаб жаніцьбы вельмі шырока практыкаваўся. Цяпер ужо ад яго адступілі, паколькі хлопцы самі з дзяўчатамі дагаварваюцца. Кіруюцца пачуццямі і ніякіх пасрэднікаў не патрабуюць. Але старэйшаму хлопцу цяжэй ужо ажаніцца. А яшчэ як адвагі бракуе... Дык варта скарыстаць табе з гэтага спосабу, тым больш, што твой дзядзька зрабіў ужо пачатак. Ён табе і дапаможа давесці справу да канца. Толькі не адкладвай, час жа хутка ляціць і маладосць прамінае.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Каханая „Ніва“! Вельмі перапрашаю, што буду пісаць па-польску свой сон. Увесь час я жыла ў Катовіцах і там ані беларускай мовы, ані рускай не чула. Цяпер буду жыць у Белавежы, і пачынаю чытаць рускія газеты і „Ніву“. Навучуся, хаця я ўжо немаладая. Адзін сон быў такі. Што я са старой хаткі (дзе адразу жыла), выношу ў скрынцы ні то муку, ні то асыпку. Бо нейкая зверху была цемнаватая. Вынесла я на вуліцу, паставіла пад плотам, а сама стаю ў брамцы з дачкою, і на гэтым прачнулася. У тую ж ноч мне сніцца, што хлопчык 12 год, нібы гэта быў сын мужа маёй унучкі, нібы чужы, улез пад ложак майго мужа, бо зрабіў мне вялікі балаган у хаце. Усёываліў на падлогу з майго ложка і не толькі пасцель, але яшчэ і іншыя розныя рэчы. Давай я ізноў усё класці на ложак. І на гэтым прачнулася. Прашу даць мне адказ, прачытаю, альбо хтосьці мне дапаможа па-беларуску. У „Ніве“ вы ж пісалі, што як хто можа, так няхай піша, толькі людзі кажуць, што трэба доўга чакаць адказу.

**Ядвіга**

**Ядвіга!** Праўду людзі кажуць, што трэба чакаць. Але мая памочніца кажа, што часамі сны спаўняюцца праз многа год. Так што, думаю, твой сон актуальнасці не страціў. Мука, якую ты несла з хаты на вуліцу, сведчыць аб нейкай чэснай і карыснай працы, якую ты, бадай, зрабіла для некага. Мела ты пры гэтым нейкія затрудненні, бо мука была зверху цёмная. Твой другі сон сведчыць аб тым, што чакае цябе нейкая змена ці кватэры, ці працы. Магчыма нават, што муж твой крыху прыхварэе. Але нагул нічога страшнага не адбудзецца.

**Астрон**



Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

## ВЯСНЯНКА




*Ой, выйду я на гуліцю,*
*стану на колодці —*
*гукну раз, гукну два:*
*— Збірайтэсе, хлопці!*
*Вышоў хлопэць кунджэравы*
*зо мною говорыт —*
*вышла маті з котюбою,*
*за собою гоніт:*

*— Дэ ж ты, доню, побіжыш —*
*вэрнісе дохаты,*
*у коморы постіель біела —*
*кладовісе спаты.*
*Постіелька біеленька,*
*а стіена ніемэнька,*
*з кім я буду розмовляты —*
*то ж я молодэнька?!*

Ад Раісы Чэрнякевіч, 1896 г. нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў 11 чэрвеня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

(Працяг са стар. 5)

## СЛЯДАМІ СМЕРЦІ

Міхаіл Млынарчук. — Яны запраўлялі ўзрыўчаткай і даставалі гэтыя амбразуры, у якіх стаялі гарматы. То ўжо пазней...

— Так, пазней... — неяк цяжка ўздыхнуўшы, паўтарае Пятро Плаксей і накіроўваецца ў адзін цёмны і цесны куток дота. Хвіліну стаіць, маўчыць, і затым кажа: — Тут, гэта тут мы хаваліся, калі гітлераўцы намагаліся выдушыць нас газамі. Сядзелі мы ўсе ў процівагазах. Сядзелі ціха, бо ў масках і так адзін другога не чуе, а надабавак, калі пачулі б немцы, што мы яшчэ размаўляем і рухаемся, дык дабавілі б нам столькі атруты, што і процівагазы нас не змаглі б выратаваць. Сядзелі мы ціха і толькі адзін другога шчупаў за руку. Калі хто не адказваў на гэты дотык суседа, вядома было, што ён ужо памер...

І тут прыпомніўся мне адзін эпізод з успамінаў Івана Шыбакова, камандзіра гэтага дота, які я тут паўтару:

*„...І зноў знаёмае шыпенне. У горле млосна, душыць кашаль. Мацаю пальцамі трубу процівагаза і знаходжу прабоіну. Намагаюся яе закрыць. Не ўдаецца. Тады сарваў я гумовы шлём з забітага таварыша і нацягнуў яго сабе на галаву. Шлём быў запоўнены крывёй...“*

— Каб не знаходлівасць нашага камандзіра, лейтэнанта Шыбакова, — гаворыць Пятро Плаксей, — яшчэ больш бы нас тады загінула б тут...

Ён зноў дакрануўся рукой да пачарнелай ад выбухаў сцяны дота, ботам адкінуў некалькі каменьчыкаў з разбітых сцен і тады сказаў:

— Вось за гэтай сцяной, на падлозе хаваліся мы тады ад газаў. Усе збітыя ў кучку, як мяса ў бочцы. Гітлераўцы для пэўнасці, што ўжо з намі астаткова пакончылі, пасля падачы газаў, пачалі наш дот закідваць гранатамі. Большасць з іх разрывалася звонку, аднак гэтая... яшчэ і зараз яна круціцца ў маіх вачах... Упала перад намі, падскаквае і шыпіць... Яшчэ хвіліна... І тады лейтэнант Шыбакоў схапіў гэтую гранату і запхнуў яе ў газаадводную трубу. Рукі назад выцягнуць ужо не паспеў. Выбух адкінуў яго аж на другою сцяну. Асколкі падзіравілі руку і грудзі. На шчасце, да сэрца не прабіліся. І ведаеце, што яго выратавала? Грошы. Незадоўга да пачатку ваенных дзеянняў Іван Мікалаевіч выйграў на латарэі вялікую суму грошай. Скрунуў іх у рулон і схаваў у нагрудную кішэню. Былі там яшчэ яго асабістыя дакументы. Асколкі не змаглі прабіць усяго гэтага. Ну і гэта труба, — ён паказвае на абарваную ад выбуху, шырынёй у нейкіх 15 сантыметраў, заіржавелую ўжо трубу. Я і раней ужо некалькі раз яе бачыў і датыкаўся да яе, але тады гэтая труба была для мяне звычайным мёртвым прадметам, не мела такога значэння як зараз. Цяпер пад пальцамі адчуваю боль ад нагрэтага жалеза, чую як дрыжыць яна перад маім дотыкам, як звініць ад выбуху...

— Пятро, а ты дзе тут стаяў са сваім кулямётам? — пытае Плаксея Міхаіл Млынарчук.

— Я ж табе гаварыў, — адказвае даўнейшы воін, — што найперш я быў на кухні, а калі не хапіла ўжо харчоў і не было чаго варыць, тады палітрук Локцеў загадаў выдаць мне кулямёт і з гэтым кулямётам я ваяваў. У дзень — у акопе, а нанач хаваўся ў дот. Вунь там, — ён паказвае на вузкі пралаз у сцяне дота, — быў запасны выхад, забяспечаны жалезнымі кратамі. Там таксама ўзарвалася граната. І тады мяне параніла ў патыліцу. Яшчэ да сённяшняга дня нашу я ў галаве асколкі ад гэтага выбуху...

Пятро Плаксей зноў нервова курыць. Хвалюецца. Перажывае. Адварочваецца ад нас і ўкладае пад язык нейкую пілюлю. Напэўна „валідол“, — падумаў я і гавару, каб мы выходзілі з гэтых развалін, запоўненых слядамі смерці. Хопіць на сёння...

**Віктар Рудчык**



*За супольным сталом супольныя ўспаміны. Пятро Плаксей (справа) у гасцях у Міхаіла Млынарчука.*

## Куток практычных ведаў

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## ТРУСКАЛКІ

### АЛАДКІ З ТРУСКАЛКАМІ

На 2,5 шклянкі мукі ўзяць 2 яечкі, кіслае малако, лыжку парашку для пячэння, лыжку цукровай пудры, крыху солі, паўкілаграма здаровых трускалак.

Змешаную з парашком для пячэння муку ўсыпаць у каструльку, убіць туды жаўткі і, дадаючы кіслае малако, расцерці цеста на гладкую масу. Пазней дадаць збітыя бялкі і старанна памытыя і ачышчаныя трускалкі. Лёгка вымяшаць. Класці лыжкай аладкі на добра разагрэты тлушч на глыбокай патэльні і смажыць з двух бакоў. Зняўшы з патэльні, аладкі пасыпаць цукровай пудрай з ванілінам.

### БЛІНЧЫКІ З ТРУСКАЛКАМІ

На цеста бярэм: 2 шклянкі мукі, 3 яечкі, малако, крыху солі. У фарш: 25 дэкаў свежага тварагу, паўшклянкі малака, 2 лыжкі цукровай пудры, ванільны цукар, паўкілаграма трускалак.

Муку размяшаць з жаўткамі, уліваючы пакрысе столькі малака, каб атрымалася цеста гушчыні смятаны. Дадаць крыху солі, і моцна збітую пену з бялкоў. Лёгка размяшаць. На разагрэтую і змазаную скуркай ад сала патэльню ўліваць пакрысе цеста і смажыць з абодвух бакоў не надта тоўстыя блінчыкі. Складаць адзін на другі на талерцы.

Тварог расцерці з цукрам, малаком ванільным цукрам, змазаць тоненькім пластом блінчыкі, пасыпаць парэзанымі трускалкамі, складваць блінчыкі, як хустачку. Падаючы блінчыкі, паліць іх збітай з ванільным цукрам смятанай.

### РЫСАВАЯ БАБКА З ТРУСКАЛКАМІ

Узяць шклянку рысу, шклянку вады, шклянку малака, лыжачку масла, 3 яечкі, чатыры лыжкі цукру, ванільны цукар, тлушч, цёртую булку, паўкілаграма памытых трускалак і бутэльку смятаны.

Спаласнуты рыс закіпяціць у шклянцы вады, уліць малако, дадаць масла, соль і зварыць на малым агні. Можна, закіпяціўшы, даварыць, загарнуўшы ў газеты, нейлон і плед, пакінуўшы так на 2—3 гадзіны. Вылажыць рыс у міску, дадаць сцертыя з цукрам і ванілінам жаўткі, размяшаць, пасля чаго дадаць моцна збітую пену з бялкоў. Лёгка размяшаўшы, палажыць рыс у тартаўніцу, змазаную тлушчам і пасыпаную цёртай булкай. Уставіць у гарачую духоўку мінут на 30—40. Выняўшы з формы і астудзіўшы бабку, палажыць у сярэдзіну (перад пячэннем не забыцца ўставіць у сярэдзіну формы комін) спаласнутыя трускалкі, лёгка перасыпаныя цукрам, паліць бітай смятанай.

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** Аўтамабіль, які ехаў зімой праз вёску, паслізнуўся на лёдзе і ўдарыў фурманку, якую мінаў. У выніку пашкоджаны аўтамабіль, фурманка, а фурман пакалечаны. Хто адказвае за шкоду?

**АДКАЗ:** Перш за ўсё трэба ўстанавіць, ці самаход і фурманка ехалі згодна з правіламі дарожнага руху. Калі дарога слізкая, аўтамабіль, як і фурманка, павінен ездзіць асцярожна. Аднак выпадак мог здарыцца і пры асцярожнай яздзе. Напрыклад, абледзяненне было толькі ў адным месцы і нельга было гэтага прадбачыць. У гэткім выпадку не было б віны ані з боку фурмана, ані шафёра. У адносінах да ўласніка аўтамабіля ў гэткім выпадку кампенсацыю выплаціць ПЗУ. Уласнік аўтамабіля адказвае на падставе рызыкі, і таму фурман можа дамагацца кампенсацыі ад уласніка самахода і ПЗУ. Аднак і ў адносінах да пацярпеўшых, як і ПЗУ, адказнасць за ўсе шкоды, звязаныя з выпадкам, абцяжвае таго, хто абавязаны ўтрымоўваць дарогу ў належным стане. Справа ў тым, што па закону аб публічных дарогах на забудаваных абшарах абавязаны ачышчаць дарогу ад балота, снегу і лёду ўласнікі і ўладальнікі сумежных з дарогай нерухомасцяў. Калі нерухомасці, якія прылягаюць да абодвух бакоў дарогі, належаць да розных асоб, то кожны з іх адказны за ачышчэнне дарогі да паловы. На жаль, не ўсе аб гэтым ведаюць, і многія адносяцца бесклапотна да гэтага абавязку.

